РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 49 (7862) Заснавана ў красавіку 1931 года СЕРАДА, 28 чэрвеня 2000 г. Цана 25 руб.

## ДОШКА ГОНАРУ

*Райкам прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу паведамляе, што ў ходзе спаборніцтва на нарыхтоўцы кармоў па стану на 26 чэрвеня лепшых вынікаў дасягнулі:*

Механізатар калгаса "Расія" **КАВАЛЁЎ Іван Міхайлавіч**, які на КСК-100 нарыхтаваў 1000 тон сянажнай масы.

Механізатар з гэтай жа гаспадаркі **ЧЫЖ Аляксандр Рыгоравіч**, які на трактары МТЗ-82 з КДН-210 скасіў травы на 500 гектарах.

Механізатар калгаса "Ленінскі шлях" **ШУНІБОРАЎ Леанід Васільевіч**, які на МТЗ-80 з касілкай КДН-210 скасіў травы на 216 гектарах.

Механізатар калгаса "Прагрэс" **ГРЫШЧАНКА Мікалай Іванавіч**, які на МТЗ-80 з прэспадборшчыкам ПРФ-750 запрэсаваў 250 тон сена.

Механізатар калгаса "Дуброва" **ДЫЛІКА Сяргей Мікалаевіч**, які на трактары МТЗ-82 з прэспадборшчыкам ПРФ-750 запрэсаваў 252 тоны сена.

***Калгасы "Парыжская камуна", "Прагрэс" і "Расія" поўнасцю завяршылі ўборку траў першага ўкосу. У калгасе "Дуброва" нарыхтавана травяністых кармоў на 1 умоўную галаву жывёлы па 8,2 кармавыя адзінкі, па раёну – 4,5.***

### ЗВЕСТКІ

***аб нарыхтоўцы кармоў у гаспадарках раёна па стану на 26 чэрвеня г.г.***

*Першая калонка – назвы гаспадарак, другая – скошана траў першага ўкосу (у % да плана), трэцяя – нарыхтавана сена (у % да плана), чацвёртая – нарыхтавана сенажу (у % да плана).*

| | | | |
|---|---|---|---|
| "Пар. камуна" | 100 | 35 | 80 |
| "Прагрэс" | 100 | 37 | 59 |
| "Расія" | 100 | 29 | 36 |
| імя К. Маркса | 98 | 16 | 62 |
| "Баронькі" | 96 | 15 | 60 |
| "Лен. шлях" | 93 | 20 | 22 |
| "Дуброва" | 87 | 56 | 38 |
| "Кранштат" | 83 | 14 | 43 |
| імя Калініна | 82 | 29 | 58 |
| "Новы быт" | 81 | 18 | 2 |
| "Новае жыццё" | 80 | 11 | 63 |
| "Праўда" | 79 | 19 | 53 |
| "Радзіма" | 77 | 43 | 25 |
| "Смолькі" | 75 | 14 | 18 |
| "Забычанне" | 74 | 22 | 9 |
| **ПА РАЁНУ:** | **88** | **25** | **41** |

**КОСЯЦЬ І ПРАСУЮЦЬ**

Браты Міхаіл і Васіль Патапенкі ў калгасе "Новае жыццё" працуюць механізатарамі. Сёлета Міхаіл Іванавіч атрымаў новы трактар МТЗ-821. Аднак пачалася нарыхтоўка кармоў і ён, як вопытны механізатар, сеў за штурвал самаходнай касілкі Е-303. Заняты касьбой траў на падкормку жывёлы і на сянаж.

Брат Васіль у гэты час працуе на трактары Міхаіла ў агрэгаце з ПРФ-750. Ён запрэсаваў ужо 120 тон сена. Старанны механізатар штодзень дабіваецца высокай выпрацоўкі.

## ЗАЛАТЫ МЕДАЛЬ – АДЗНАКА ВУЧНЁЎСКАЙ ПРАЦЫ

Стала ўжо традыцыяй праводзіць у нашым раёне ўрачысты сход выпускнікоў сярэдніх школ. Спыніліся для іх школьныя гадзіннікі, не прагучыць знаёмы званок, не пакліча ў клас, не збярэ ўсіх разам. І як заўсёды на парозе нечага новага, нязведанага, хочацца азірнуцца назад, яшчэ раз у думках прабегчы па запаветных кутках школьнага жыцця. У гэты дзень, па-асабліваму святочны, падводзіліся вынікі старанная працы многіх выпускнікоў школ.

Урачысты сход адкрыў намеснік старшыні райвыканкама В. І. Сугака. Гучыць Гімн Рэспублікі Беларусь. На сцэне – ганаровы прэзідыум. Слова для віншавання выпускнікоў школ бярэ старшыня райвыканкама М. Р. Барысаў. Ён шчыра павіншаваў вучняў, настаўнікаў, бацькоў з заканчэннем навучальнага года, здачай экзаменаў. Расказаў пра перадавікоў вытворчасці, перспектывы развіцця раёна. Прадпрыемствы і арганізацыі раёна для падрыхтоўкі сабе кадраў выдавалі мэтавыя накіраванні на вучобу. Міхаіл Рыгоравіч пажадаў выпускнікам поспехаў у здачы ўступных экзаменаў. А потым старшыня райвыканкама М. Р. Барысаў, загадчык раённага аддзела адукацыі В. М. Шведаў уручылі лепшым вучням атэстаты, 26 залатых і 15 сярэбраных медалёў і грашовыя прэміі за школьную працу.

Ад выпускнікоў слова ўзяла вучаніца СШ № 1 горада Вераніка Мартыненка.

Віншавалі выпускнікоў вучні падрыхтоўчага класа СШ № 3.



Добрыя пажаданні на дарогу выказаў дырэктар Тупічынскай сярэдняй школы С. Т. Панькоў.

Ад імя бацькоў віншавала выпускнікоў Г. А. Анахіна.

Шмат у гэты дзень было выказана цёплых слоў у адрас тых, хто атрымаў пуцёўку ў жыццё. У гонар іх былі выкананы музычныя нумары.

Намеснік старшыні райвыканкама В. І. Сугака таксама пажадаў рабятам на парозе новай шчаслівай пары жыцця самага цудоўнага ў іх юнацтве.

Урачысты сход выпускнікоў раёна закрыты. Рабяты накіраваліся, напярэдадні Дня незалежнасці, ускласці кветкі да помніка загінуўшым у гады Вялікай Айчыннай вайны. Тут яны і сфатаграфаваліся на памяць разам з кіраўнікамі раёна, дырэктарамі школ, настаўнікамі.

У добры шлях, выпускнікі!

**На здымку: уручэнне медаля выпускніку Андрэю ТРУБЧЫКУ.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

## Як вырашаюцца пастаўленыя задачы?

***(З АБЛАСНОЙ ВЫТВОРЧАЙ НАРАДЫ)***

У мінулую суботу адбылася абласная селектарная нарада. Размова ішла аб вырашэнні задач, якія былі вызначаны па нарыхтоўцы кармоў, догляду пасеваў, падрыхтоўцы да жніва, вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі, і пастаўлены перад кіраўнікамі раёнаў, гаспадарак раней. Вёў нараду старшыня аблвыканкама Міхаіл Дражын. Ён напачатку спыніўся на ключавых праблемах, выніках работы і даў ацэнку зробленаму.

З інфармацыяй аб справах у аграпрамысловым комплексе выступіў намеснік старшыні аблвыканкама, старшыня камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Пётр Кандратаў. Было сказана, што па тэмпах уборкі траў заданне ў цэлым вобласцю не выконваецца. Штодзённы прырост скошаных плошчаў склаў 3,3 працэнта. Па вобласці ўбрана палавіна сенажацяў, а ў некаторых раёнах, гаспадарках – толькі адна трэць. Касцюковіцкі раён "падцягнуўся" і дабіўся станоўчых зрухаў у назапашванні кармоў.

Для ўсіх кадраў нязменным застаецца патрабаванне: да 1 ліпеня закончыць касьбу і ўборку траў на культурных сенажацях, да 15 чысла гэтага месяца – на прыродных угоддзях. Абавязкова трэба падкарміць травы і атрымаць добры другі ўкос. Пастаўлена задача забяспечыць павелічэнне вытворчасці кармоў на 30 працэнтаў у параўнанні з мінулым годам. Пры гэтым якасць іх павінна быць высокай, а ўлік дакладным. Каб дабіцца такіх вынікаў, варта матэрыяльна зацікавіць людзей, устанавіць належную аплату працы.

Вялікая ўвага ўдзелена арганізацыі догляду пасеваў збожжавых і кармавых культур, бульбы. Неабходна правесці хімічныя апрацоўкі супраць шкоднікаў, хвароб, пустазелля, падрыхліць міжрадкоўі.

Як падкрэслівалася, калгасы літаральна згаладаліся па добрых урад-жаях, збожжу. Неабходна не толькі вырасціць іх, а і своечасова падрыхтаваць уборачную тэхніку, убраць вырашчанае. Пакуль жа на месцах далёка не ўсё зроблена па рамонту камбайнаў, збожжавых комплексаў, тэхдогляду, абслугоўванню вагавай гаспадаркі.

Перайшоўшы да разгляду паказчыкаў жавёлагадоўчай галіны, П. А. Кандратаў заўважыў, што вытворчасць малака па вобласці засталася на мінулагоднім узроўні. У некаторых жа раёнах надоі пачалі зніжацца. Там статкі не забяспечваюцца маладой зялёнай травой.

Здараюцца выпадкі вяртання даставаленай на малаказаводы прадукцыі назад калгасам. Гэта сведчыць аб дрэнных паказчыках па кіслотнасці і якасці рэалізуемага малака.

Старшыня аблсельгасхарчу прааналізаваў работу калектываў буйных свінагадоўчых комплексаў. Увогуле закраналася пытанне аб кармленні свіней у гаспадарках, атрыманні прыплоду і прываг. Тут важна забяспечыць для жывёлы адпаведныя рацыёны.

Звернута ўвага кіраўнікоў на аднаўленне былой колькасці пагалоўя на фермах. Асабліва востра неабходна паляпшаць работу з дойнымі статкамі гаспадарак.

Узнімалася пытанне аб пагашэнні запазычанасці малаказаводаў за прынятае ад прыватнага сектара малако. Установлен для райвыканкамаў кароткі тэрмін, за які неабходна правесці аплату поўнасцю. Ад гаспадарак патрабавана разлічыцца за атрыманае на базах паліва.

Як звычайна, былі заслуханы на нарадзе справаздачы старшынь райвыканкамаў, начальнікаў сельгасупраўленняў. Старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў далажыў аб зменах, што адбыліся пасля наведвання раёна губернатарам. Так, вытворчасць і продаж малака зараз значна большыя, чым былі ў гэты час летась. Рост дасягнуты дзякуючы паляпшэнню арганізацыі пашавага ўтрымання жывёлы.

Раёну засталося ўбраць травы на апошніх 20 працэнтах плошчаў. Забяспечанасць жывёлы кармамі ўжо склала амаль па 4 кармавыя адзінкі на ўмоўную галаву.

М. Р. Барысаў паставіў перад кіраўніцтвам вобласці некаторыя важныя пытанні, якія павінны быць вырашаны з яго дапамогай. Сярод іх – ліквідацыя доўгу спажыўцоў сельгаспрадукцыі – прадпрыемстваў абласнога цэнтра – перад калгасамі, выдзяленне грашовых авансаў на рамонт тэхнікі, нарыхтоўка кармоў на землях запасу і іншыя.

У сваю чаргу, М. У. Дражын патрабаваў, каб усе гаспадаркі раёна ўзмацнілі кантроль за якасцю нарыхтоўваемых сена і сенажу, прынялі з гэтай мэтай усе магчымыя меры.

Пасля абласной нарады ў райвыканкаме разглядаўся ход палявых работ у калгасах. М. Р. Барысаў сказаў, што ў некалькіх гаспадарках прыбаўка закладзеных кармоў за мінулыя дні нязначная. Перадавыя калгасы спрацавалі ніжэй сваіх магчымасцей.

Цяпер трэба сканцэнтраваць сілы і тэхніку для нарыхтоўкі сенажу ў тых калгасах, куды пераведзены міжгаспадарчыя механізаваныя атрады нядаўна. Важна ўбраць травы на землях запасу, бо без выкарыстання гэтага рэзерву немагчыма забяспечыць удосталь кармамі жывёлу. Тэхніка павінна працаваць усюды з 5 гадзін раніцы. Мехатрады абавязаны дабівацца максімальнай прадукцыйнасці, даражыць часам. Раён нарыхтоўвае за дзень да 1500 тон сенажу, і гэта не мяжа.

Старшыня райвыканкама папярэдзіў кіраўнікоў аб тым, каб забяспечылі строгае захаванне тэхналогіі нарыхтоўкі кармоў. Уваходы ў сянажныя траншэі варта засланць галінкамі. А тэхніку трэба ўтрымліваць у спраўным стане, даглядаць, не дапускаць падцякання масла і паліва. Дадзеныя лабараторыі сведчаць, што якасныя паказчыкі кармоў сёлета горшыя за мінулагоднія ў калгасах "Радзіма", "Праўда", імя Карла Маркса, "Смолькі", "Расія" і некаторых іншых.

Як адзначалася, аб'ёмы нарыхтаваных кармоў у калгасах у гэтым годзе ніжэйшыя, чым былі ў канцы чэрвеня летась. Таму трэба рабіць высновы і неабходныя захады. Нельга забываць, што параўноўваюцца далёка не лепшыя вынікі папярэдняга года з сёлетнімі. Мінулая зімоўка была цяжкай. Гаспадарнікі абавязаны таксама забяспечыць асабістыя падворкі грамадзян кармамі.

М. Р. Барысаў патрабаваў, каб усе калгасы старанна вялі догляд пасеваў. З мэтай павышэння надояў малака статкі неабходна перавесці на атаву. Часта гэта не робіцца, чаго даравань нельга.

## Моладзь адзначыла сваё свята

*Толькі ў гэты цёплы летні вечар і толькі на свята моладзі можна было ў нашым горадзе не толькі цудоўна адпачыць, а і стаць супрацоўнікам "начнога клуба". Толькі не так проста было атрымаць пасаду ў гэтай установе. Трэба было стаць пераможцам конкурсу. З жаданнем моладзь, якая прыйшла на летнюю танцавальную пляцоўку, уключалася ў конкурсы. Кожнаму хацелася атрымаць больш прэстыжную пасаду.*

*Вядучыя, супрацоўнікі раённага Цэнтра культуры Ірына Лупанава і Іна Нячаева прапаноўвалі з кожным новым заданнем усё больш складаныя конкурсы, і тым не менш, жадаючых паўдзельнічаць у чарговым конкурсе, прыбаўлялася.*

*За час забаўляльна-гульнявой праграмы былі выбраны бухгалтар, які павінен быў з мноства грошай, выраблених на камп'ютары, набраць пэўную суму за кароткі тэрмін. Дарэчы, хаця грошы ўмеюць лічыць усе, справіцца з гэтай задачай было не проста.*

*Сакратара падбіралі, нібы Папялушку, па меніяцюрнаму размеру абутку. Адміністратар жа павінен быў па перавярнутых вершах вызначыць, аб якой перадачы тэлебачання ідзе размова. Вядома, спевакі павінны былі даспяваць пачатую песню, танцоры таксама спраўляліся з не менш складанай задачай.*

*Увогуле свята атрымалася цудоўнае. На летняй танцавальнай пляцоўцы не было раўнадушных. Хто не ўдзельнічаў, той абавязкова падтрымліваў канкурсантаў апладысментамі.*

*Супрацоўнікі Цэнтра культуры выказвалі словы падзякі загадчыцы аддзела па рабоце з моладдзю райвыканкама Іне Мамчанка і першаму сакратару райкама ГА БПСМ Віктару Бураку за прадастаўленыя прызы для заахвочвання самых актыўных удзельнікаў гульнявой праграмы, для розыгрышу латарэі.*



# ЧАРНОБЫЛЬ: ПРАБЛЕМЫ І ЖЫЦЦЁ

*СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК МІНІСТЭРСТВА ПА НАДЗВЫЧАЙНЫХ СІТУАЦЫЯХ*

## НЕБЯСПЕЧНЫЯ ДАЛІКАТЭСЫ

Рыбныя стравы любяць многія. Праўда, зараз няпроста купіць добрую свежую рыбіну. Асартымент гэтай прадукцыі небагаты, ды яна і залатая. Не тое, што было ў мінулыя часы.

Але страўніку не загадаеш пацярпець у сувязі з цяжкасцямі і праблемамі жыцця. Таму рыбу да свайго стала мы імкнемся ўсё ж неяк прыдбаць. Лета ў гэтым сэнсе – надзейны памочнік. Зараз можна бачыць рыбаловаў-аматараў, якія сядзяць на берагах рэчак, азёр, вадаёмаў з вудачкамі, спінінгамі ў руках. Нямала і такіх, хто прымяняе больш надзейныя спосабы – вылоўліваюць рыбу вялікімі і малымі сеткамі, нават недазволенымі прыладамі і прыстасаваннямі.

Мая вам парада ў сувязі з гэтым: не забывайце, што мы жывём у забруджаным чарнобыльскімі радыенуклідамі раёне. Таму трэба выбіраць, у якіх месцах лавіць тую ж рыбу.

Перасцярога недарэмная. Справа ў тым, што як да аварыі, так і сёння, аматары далікатэсаў рыбачаць на Сілічоўскім, Печанежскім і іншых азёрах. А яны ж на тэрыторыях, якія аднесены да зон першачарговага і наступнага адсялення людзей, г.зн там, дзе рэзка павышаны радыяцыйны фон. Даследаваная рыба, злоўленая там, перавышае дапушчальныя параметры па радыенуклідах у дзесяткі і сотні разоў.

Вельмі памыляюцца тыя, хто праяўляе непатрэбны герайзм, ці бяздумнасць, ігнаруе ўсялякія рэжымы і папярэджванні дасведчаных людзей, спецыялістаў. У якасці аргументаў прывяду ўсяго некалькі лічбаў. За мінулы год раённым цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі даследавана 17 проб рыбы. Выяўлена, што ў трох пробах утрыманне ядзернай атруты перавышае дапушчальныя нормы.

Наіўна было б думаць, што гэта ўся рыба, якая здабывалася людзьмі летась. Безумоўна, шмат яе прынесена дадому і не падвергнута ніякаму кантролю. Некаторыя абмінулі лабараторыі толькі таму, што не хапіла сілы волі паказаць радыяцыйную рыбу, бо, магчыма, давялося б адмовіцца ад яе.

Асабліва шмат радыенуклідаў накоплівае драпежная рыба (шчупак, акунь). Чым вышэй узрост яе, тым больш небяспечных рэчываў утрымліваюць у сабе гэтыя рыбіны...

Заадно хочацца сказаць пра ягады і грыбы. Гэтыя дары прыроды таксама карысныя, смачныя і мы іх любім збіраць. Але зноў жа: нярварта "залятаць" у радыяцыйную зону. Вядома, што найбольш чыстыя землі ў раёне ўсходнія і паўночна-ўсходнія. Іншымі словамі, грыбы і ягады часцей за ўсё прыдатныя для ўжывання ў ежу, калі іх нарыхтоўваюць у каніцкіх, бялынкавіцкіх лясах, у Хоцімскім і часткова ў Клімавіцкім раёнах.

Аднак гэта не значыць, што там усё ідэальна. Кожнае балота, або ўсялякі ўзгорак маюць свае асабліваcці і паказчыкі забруджанасці. Да таго ж не ўсе яны як след вывучаны. Мы рэкамендуем правяраць усю прынесеную з лесу прадукцыю. Не трэба лічыцца з дадатковымі клопатамі. Беражонага, як кажуць, Бог беражэ.

Шмат радыенуклідаў накопліваюць польскі грыб, махавік, рыжык, грузд, ваўнянка. Збіраць грыбы можна ў лясах з шчыльнасцю забруджвання глебы да 1 кі на квадратны кіламетр.

Аналагічныя прапорцыі выяўлены пры праверках ягад. Нярэдка трапляюцца чарніцы, суніцы, ужыванне якіх забараняем, бо яны прынясуць больш шкоды, чым карысці.

Паверце, гэта інфармацыя даецца насельніцтву не дзеля таго, каб нехта выканаў свае пасадавыя інструкцыі і ўсё на гэтым. Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі – служба здароўя. А здароўе і жыццё людзей – даражэй за.ўсё.

**Васіль ГАЎРЫЛІН,**
**загадчык баклабараторыі раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

## ПАРАДАК — ЁСЦЬ ПАРАДАК

Як вядома, аварыя на Чарнобыльскай АЭС – буйнейшая тэхнагенная катастрофа на зямлі. Найбольшы ўрон ядзернымі выкідамі нанесены Рэспубліцы Беларусь.

На жаль, час мала чаго змяніў у сэнсе ўздзеяння вынікаў трагедыі на наша жыццё. Прайшло ўжо 14 гадоў пасля аварыі, але мы не можам сказаць, што за гэты час адбылося істотнае зніжэнне ўзроўню радыяцыі на забруджанай тэрыторыі.

У нашым раёне радыеактыўнае воблака накрыла значную частку тэрыторыі, дзе было 62 населеныя пункты. І зараз узровень забруджанасці радыенуклідамі складае ад 1 да 40 кюры на квадратны кіламетр, а ў 10 вёсках ён дасягае нават 50 кюры.

Дзяржава выдзяляе вялікія сродкі, каб мінімізаваць вынікі аварыі на ЧАЭС. Накіроўваюцца яны і на ўтрыманне зоны адсялення ў нашым раёне. Праводзіцца работа па добраўпарадкаванню, у тым ліку і агароджванню могілак, рамонту помнікаў і месц пахаванняў загінуўшых воінаў. Ствараюцца супрацьпажарныя палосы. Акрэсліваюцца граніцы ў зоне адсялення. Выконваюцца многія іншыя работы.

Пачалося лета. З яго наступленнем інтэнсіўна вядуцца работы па нарыхтоўцы кармоў, іншай прадукцыі земляробства. Многія людзі наведваюць лясы, дзе збіраюць ягады, лекавыя травы і грыбы. Часам у пагоні за практычнай выгодай аматары забываюць або ігнаруюць патрабаванні аб захаванні правілаў паводзін у радыяцыйнай зоне. Тыя ж дары лесу, між іншым, уяўляюць вялікую небяспеку, калі здабыты на землях з высокім радыяцыйным фонам.

Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь прыняло дапушчальныя нормы радыенуклідаў у прадуктах і вадзе. Яны былі апублікаваны ў раённай газеце ў мінулым годзе. Таму ўся прадукцыя, вырашчаная і нарыхтаваная на землях, якія забруджаны радыенуклідамі вышэй аднаго кюры на квадратны кіламетр, належыць падвяргаць радыяцыйнаму кантролю.

Згодна з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб прававым рэжыме тэрыторый, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджванню ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (арт. 22, 23) у зонах першачарговага і наступнага адсялення забаронена нарыхтоўка грыбоў, ягад, дзікарослых пладоў, лекавай і тэхнічнай сыравіны, а таксама паляванне і рыбная лоўля. Таму ў перыяд сезона актывізуецца работа па ўзмацненню радыяцыйнай і пажарнай бяспекі на адселеных тэрыторыях.

Неабходна ведаць, што знаходжанне людзей на спецыяльна адгранічаных плошчах радыяцыйнага забруджвання ажыццяўляецца толькі з дазволу Адміністрацыі зон адчужэння і адсялення Камчарнобыля пры Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях. Калі чалавек знаходзіцца на адселенай тэрыторыі па спецыяльнаму пропуску, ён не павінен запальваць касцёр, кідаць запалкі, карыстацца адкрытым агнём. У выпадку калі адбылося загаранне травы, саломы, ці чаго-небудзь яшчэ, неабходна прымаць усе меры па тушэнню пажара, а таксама як мага хутчэй паведаміць аб здарэнні ў пажарную службу або міліцыю.

Асобы, якія парушаюць патрабаванні названага вышэй закону, прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці. Парушальнікі будуць несці пакаранне ў адпаведнасці з Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Так, згодна артыкула 46 (1) – парушэнне патрабаванняў рэжыму радыяцыйнай бяспекі ў мясцовасцях, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджванню, пранікненне без дазволу адпаведных органаў у гэту зону або самавольнае пасяленне ў ёй або знішчэнне, пашкоджанне, перанос знакаў радыяцыйнага забруджвання або агароджы, якая абазначае абмежаваную зону радыяцыйнага забруджвання мясцовасці, вынас і вываз без дазволу адпаведных органаў з гэтай зоны будматэрыялаў, паліва, пладова-ягадных насаджэнняў, пладоў, ягад, грыбоў і г.д. цягне накладанне штрафу на грамадзян у памеры ад 1 да 3 мінімальных зарплат, на пасадавых асоб – ад 2 да 5 мінімальных заработных плат з канфіскацыяй таго, што вывозіцца ці выносіцца з зоны. Калі ж будзе выяўлена, што будматэрыялы, сельгаспрадукты, прадукты харчавання і г.д. утрымліваюць радыеактыўныя рэчывы звыш дапушчальных узроўняў, прыватныя асобы могуць штрафавацца ў памеры да 5 мінімальных зарплат, пасадавыя асобы – ад 5 да 10 з канфіскацыяй гэтай маёмасці.

Згодна часткі 3 названага артыкула – занятак відамі дзейнасці, якія забаронены на тэрыторыі радыеактыўнага забруджвання, цягне накладанне штрафу ад 1 да 3 мінімальных зарплат. Здзяйсненне паўторных дзеянняў на працягу году пасля прымянення мер адміністрацыйнага спагнання, прадугледжаных часткай 3 артыкула 46, цягне накладанне штрафу ў памеры 5 мінімальных заработных плат.

Згодна артыкула 46 (2) – рэалізацыя прадукцыі, забруджанай радыенуклідамі звыш дапушчальнай нормы., цягне накладанне штрафаў у памеры да 2 мінімальных зарплат з канфіскацыяй гэтай прадукцыі. Тыя ж дзеянні, здзейсненыя пасадавай асобай, караюцца накладаннем штрафу ў памеры да 3 мінімальных зарплат.

Адміністрацыяй зон адчужэння і адсялення складзена сёлета 7 пратаколаў на парушальнікаў. На першы погляд меры, прадугледжаныя Кодэксам аб адміністрацыйных парушэннях, жорсткія. Але з пункту погляду забеспячэння бяспечнага пражывання на забруджаных тэрыторыях вельмі правільныя. І калі яшчэ не ўсе жыхары раёна разумеюць, наколькі небяспечнымі для іх здароўя з'яўляюцца заражоныя прадукты лесу і земляробства, дык хаця высокія штрафныя санкцыі прымусяць задумацца іх і многіх іншых.

Адміністрацыя зон адчужэння і адсялення па Касцюковіцкаму раёну просіць грамадзян не парушаць патрабаванні Закону Рэспублікі Беларусь.

**Мікалай ПАЛІВАНАЎ,**
**галоўны спецыяліст Адміністрацыі зон адчужэння і адсялення па Касцюковіцкаму раёну.**

**МІНІ-ІНТЭРВ'Ю**

## Затрыманы ў “зоне”...

У нашым раёне радыеактыўна забруджаную тэрыторыю ахоўвае спецыяльны ўзвод аддзела ўнутраных спраў райвыканкама. Узводам камандуе капітан міліцыі **Уладзімір Васільевіч МЕЛЬНІКАЎ**. Яму падпарадкаваны 25 супрацоўнікаў.

У сувязі з выпускам спецыяльнай старонкі райгазеты, прысвечанай пытанням захавання рэжыму зоны павышанай радыяцыі, мы задалі Уладзіміру Васільевічу некалькі пытанняў.

**— Скажыце, калі ласка, што ўяўляе сам аб'ект аховы?**

— Пад аховай знаходзіцца 31 населены пункт, больш 3090 пабудоў. У зоне першачарговага і наступнага адсялення жывуць зараз 292 чалавекі, або 145 сем'яў.

З мэтай аховы зоны створаны 2 кантрольна-прапускныя пункты – у вёсках Белая Дуброва і Гарбавічы. Адкрыты 3 маршруты аўтапатрулявання. Кожны з іх працягласцю больш як 100 кіламетраў.

**— Цікава, якая абстаноўка ў так званай зоне. Ці часта даводзіцца прымяняць Закон аб яе ахове.**

— За першую палавіну г.г. узводам затрыманы ў зоне адсялення 52 чалавекі. Яны без усялякага дазволу праніклі на забруджаную тэрыторыю. Мэты ставіліся парушальнікамі розныя. Адны прыехалі сюды з-за цікаўнасці. Другія заняліся незаконнай рыбнай лоўляй. Трэція палявалі на дзікіх жывёл і птушак. Чацвёртыя разбіралі і вывозілі пабудовы.

За браканьерства затрыманы 6 грамадзян – жыхароў г. Касцюковічы і раёна. Без прапіскі ў зоне жыве пэўная колькасць людзей. Таму складзены 90 пратаколаў згодна з арт. 179, які прадугледжвае адпаведнае пакаранне. Матэрыялы накіроўваліся ў суд раёна і адміністрацыйную камісію райвыканкама.

А ўсяго аформлена 209 дакументаў на парушальнікаў. Сярод іх можна знайсці самагоншчыкаў, парушальнікаў грамадскага парадку, правілаў дарожнага руху і патрабаванняў па выкарыстанню тэхнікі.

**— Наколькі часта жыхары раёна з мэтай задавальнення асабістых запатрабаванняў пранікаюць у радыяцыйную зону.**

— Такіх выпадкаў нямала. Ёсць людзі якія імкнуцца палепшыць свой дабрабыт за кошт крадзяжу. Многія збіраюць забруджаныя грыбы і ягады, ловяць рыбу, а затым прадаюць усё гэта на гарадскім рынку. Адметна, што нярэдкія выпадкі ашукання, якіх не саромеюцца так званыя прадаўцы. Яны могуць праверыць у лабараторыі чыстую прадукцыю і атрымаць дакумент, а пасля рэалізоўваць, скажам, ягады, сабраныя ў зоне і маючыя перавышэнне доз забруджвання. Пакупнікі павінны праяўляць пільнасць.

**— Ці вядома, якая перспектыва ў сэнсе далейшай службы вашага ўзвода?**

— Зона ахоўваецца ўжо на працягу 14 гадоў. Наш узвод пачаў несці службу на гэтай тэрыторыі ў 1993 годзе. Раней там былі 41 вёска. Цяпер 2 з іх рэабілітаваны (Клеявічы і Відуйцы). За мінулы час 8 населеных пунктаў пахавана спецыяльнай службай.

Як ужо гаварылася, у зоне засталося яшчэ некалькі населеных пунктаў і шмат будынкаў. Звыш 10 тысяч гектараў зямлі было выведзена з сельскагаспадарчага абароту ў сувязі з радыяцыйным забруджваннем. Сюды па-ранейшаму прыязджаюць людзі, каб нарыхтаваць кармы, ці з іншымі мэтамі.

Улічваючы ўсе абставіны, мяркую, што работы нам хопіць яшчэ надоўга.

**— Не хацелася б закранаць цяжкасці, бо гэта стала ледзь не “модным”. І ўсё ж...**

— Як і ў іншых службах раёна, у нас не хапае транспартных сродкаў. Замест 3-х службовых аўтамабіляў ёсць усяго 1. Паліва выдзяляецца вельмі недастаткова. Нягледзячы на гэта, узвод працуе, не спасылаючыся на нейкія абставіны. Дысцыпліна ёсць дысцыпліна.



**На здымку: кантрольна-прапускны пункт “Гарбавічы” на аўтадарозе Касцюковічы-Краснаполле.**
**Фота Дзмітрыя ПЯЧКОЎСКАГА.**

## Навошта другі “Чарнобыль”?

Толькі зламыснік, або вар'ят могуць жадаць паўтарэння такой трагедыі, якой з'яўляецца чарнобыльская. Многія народы, асабліва мы, беларусы, на сабе зведалі цяжкія яе вынікі. Што нас чакае ўперадзе, ніхто дакладна не ведае, бо падобнага вопыту ў свеце дагэтуль не было.

Тым не менш, навука дае неабходныя прагнозы, акрэслівае перспектывы, выпрацоўвае рэкамендацыі, правілы жыцця і паводзін людзей. Варта толькі ўзбройваць сябе ведамі і дзейнічаць адпаведным чынам.

На жаль, недысцыплінаванасць, лёгкадумнасць праяўляюцца людзьмі і тут. Як вядома, пажар – заўсёды вялікая і часта непапраўная бяда. А пажар у радыяцыйнай зоне па сваёй шкоднасці непараўнальны ні з чым. І ўсё ж такіх выпадкаў шмат. Статыстыка на гэты конт засмучае. Возьмем лічбы за апошнія пяць гадоў. У 1995 годзе ў вёсцы Блудзімля згарэла 30 пабудоў, Калодзецкая – 60, Дзяражня – 14, Папаратная – 2 дамы. На працягу 1996 года агнём знішчаны будынкі ў Гарбавічах, Саматэвічах, Рвенску, Вётухне, Доўгім Лагу, Брацькавічах, Клетках, Папаратнай.

Зніклі з твару зямлі 7 нежылых дамоў у вёсцы Саматэвічы ў 1997 годзе, 2 дамы ў Забычанні. Былі сумна вядомымі і 1998, 1999 гады. Летась, напрыклад, часта спявалі "чырвоныя пеўні" ў Саматэвічах, Брацькавічах. Ужо сёлета палахаў Астравок, пасля чаго замест 13 дамоў застаўся адзін попел. Акрамя таго, пажары здарыліся ў іншых населеных пунктах. Загарэўся тарфяны масіў у Печанежы.

Шчыра кажучы, калі ўявіш усю гэту панараму, здаецца, што гарыць увесь свет. Віноўнікам пажараў з'яўляецца чалавек, а не хто-небудзь іншы. У адным выпадку гэта неасцярожнае абыходжанне з агнём, у другім агонь з падпаленай сухой травы дайшоў да пабудоў.

Хочацца паразважаць на гэту тэму. У апошні час "модным" стала пазбаўляцца ад няўбранай сухой травы, саломы з дапамогай запалак. Між іншым, гэта не па-гаспадарску. Арганіка, якая атрымалася б пасля перагнівання рэштак раслін, намнога багацей попелу. Замест карысці мы маем прамы урон.

Ну, а калі хто неасцярожна абыходзіўся, жартаваў з агнём, гэта ні да чаго іншага, як да слёз, не прыводзіць. За лічаныя мінуты губляецца тое, што набывалася гадамі.

Дым і попел у чарнобыльскай зоне – гэта яшчэ адзін Чарнобыль. Без перавелічэння. Справа ў тым, што яны разносяцца вятрамі далёка за яе межы, забруджваюць чыстыя землі, атручваюць людзей.

Здаецца, нам варта больш думаць і клапаціцца пра сябе, сваіх суседзяў, сваё будучае, урэшце – аб сваёй і дзяржаўнай маёмасці.

**Віталь ЛУКАШЭНКА,**
**інспектар інспекцыі дзяржаўнага пажарнага нагляду.**

# Мэта – упрыгожыць горад

У немцаў ёсць добры выраз "мець зялёныя пальцы" – так гавораць пра чалавека з асобым пачуццём, у якога атрымліваецца любая праца, а проста кажучы, які ўважлівы да раслін, і яны плацяць яму за клопат пышным развіццём і квеценню. Менавіта такія людзі, улюбёныя ў кветкі, аб'ядналіся ў таварыства кветкаводаў-аматараў на базе грамадска-палітычнага цэнтра. Нядаўна адбылося чарговае пасяджэнне гэтага аб'яднання ў раённым краязнаўчым музеі. Апрача кветкаводаў, на пасяджэнне быў запрошаны Віктар Стэцкі, інжынер па азеляненню РВА ЖКГ.

Вёў пасяджэнне загадчык аддзела інфармацыі райвыканкама Ігар Кавалёў. Размова на ім ішла аб правядзенні выстаўкі кветак, прысвечанай Дню незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Кветкавод-аматар Віктар Іванавіч Пашкевіч выразіў свае пажаданні аб неабходнасці падтрымкі аб'яднання кветкаводаў-аматараў з боку іншых арганізацый, сапраўды, людзі, апантаныя ідэяй стварэння прыгажосці на вуліцах горада, не могуць толькі сваімі сіламі ажыццявіць свае задумы. Праблема з пасадачным матэрыялам, транспартам, палівам кветак у засушлівыя летнія дні і многія іншыя пытанні не вырашыць без дапамогі мясцовай улады.

Дарэчы, сам Віктар Іванавіч лічыць, што чалавек толькі тады жыве, калі прыносіць хоць маленькую карысць, радасць людзям. Таму дапамагае ён арганізацыям горада пасадачным матэрыялам. Так, у гэтым годзе Віктар Іванавіч падзяліўся расадай астры, хрызантэмы, маргарыткі, гладыёлуса з краязнаўчым музеем, СШ № 1 і СШ № 4 горада. Шмат кветак, сярод іх ружы, цюльпаны, гладыёлусы, раздаў людзям.

Віктар Іванавіч марыць аб правядзенні сапраўднай гарадской выстаўкі кветак, якія праходзілі раней і з'яўляліся важным культурным мерапрыемствам.

Пасля абмеркавання гэтага пытання было вырашана запланаваць правядзенне гарадской выстаўкі кветак напярэдадні навучальнага года.

Дарэчы, члены арганізацыі выказвалі сваё незадавальненне наконт абыякавасці, безініцыятыўнасці з боку школ і дзіцячых садкоў, якія не прымаюць удзел у выстаўках кветак, у пасяджэннях таварыства кветкаводаў-аматараў. Хаця цяжка не пагадзіцца з тым, што прыцягненне дзяцей да спраў кветкаводаў можа мець сапраўды вялікае культурна-выхаваўчае значэнне.

Удзельнікі пасяджэння слушна заўважылі, што ў горадзе няма кветак, якія б радавалі вока. Гэтае і іншыя пытанні былі адрасаваны інжынеру па азеляненню Віктару Стэцкаму. На жаль, адказ яго быў мала прыемным, бо на вырашэнне гэтых набалелых пытанняў у жыллёва-камунальнай гаспадарцы таксама няма сродкаў. У сваю чаргу гэта арганізацыя спадзяецца атрымаць дапамогу з боку кветкаводаў-аматараў у выглядзе пасадачнага матэрыялу, карысных парад.

Напрыканцы пасяджэння загадчык аддзела інфармацыі райвыканкама Ігар Кавалёў паабяцаў дапамагчы як у арганізацыі выставак кветак, так і ў плане стварэння матэрыяльнай базы таварыства кветкаводаў-аматараў: закупіць спецыяльную літаратуру, відэакасеты, пасадачны матэрыял.

Застаецца спадзявацца, што і кветкаводы-аматары, і РВА ЖКГ, і аддзел інфармацыі райвыканкама аб'ядноюць свае сілы, прыкладуць намаганні дзеля дасягнення самай светлай мэты – упрыгожыць наш горад, жыццё людзей, зрабіць яго яркім, рознакаляровым і святочным.

**Ірына ПЕТРУСЕВІЧ.**




ШКОЛЬНАЕ ЛЕТА

# З карысцю

*Пры раённай станцыі турызму і краязнаўства працуе лагер, у якім адпачываюць 45 дзяцей. Работнікі яго, каб зрабіць адпачынак рабят цікавым і змястоўным, і, да таго ж, карысным, прыдумваюць разнастайныя формы яго: конкурсы, віктарыны, паходы, экскурсіі. Так, прайшоў тут конкурс малюнка. Рабяты ўсе стараліся і былі заахвочаны прызамі, у набыцці якіх, а таксама спортінвентару дапамогу аказваюць ГА БПСМ і раённая інспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.*

*Рабяты кожны дзень бываюць на прыродзе і не толькі адпачываюць. Была аб'яўлена ў лагеры экалагічная дэкада, у час якой хлопчыкі і дзяўчынкі ачысцілі ад смецця ўрочышча Баравец.*

*У рамках гэтай дэкады прайшоў тут і баль кветак. Кожны выхаванец лагера прынёс сваю, вырашчаную дома, кветку. Такія былі ўмовы. І сапраўды, атрымаўся баль кветак, бо былі тут самыя розныя і па колеру, і па росту, і нават самыя незвычайныя.*

*Толькі бываўшы на прыродзе, сутыкаючыся з ёй штодзённа, можна пазнаць яе прыгажосць, хараство, навучыцца любіць і абараняць яе. Гэта добра ведаюць работнікі РСТіК і імкнуцца як мага больш даць ведаў аб прыродзе сваім выхаванцам у час паходаў, экскурсій.*

БЫЛЬ

# ГНЕЗДО НА ПРОКОСЕ

Прошло уже более 50 лет с того времени, а этот эпизод из жизни пернатой семьи не выходит из моей памяти.

Было это в далекие послевоенные годы. Мы, дети, в то время не по годам взрослели. Испытав ужасы немецкой оккупации, рады были мирной жизни, потому мы настойчиво включались в трудовую жизнь, помогали взрослым.

Мать еще с вечера сообщила: "Завтра начнем сенокос. Дед Окунев и косу подготовил". Коса наша старая, вернее не коса, а скосок, но мать ее хвалит и бережет.

Самое прекрасное время в деревне – это пора сенокосная, время цветения трав, вкус первой сладкой ягоды и жаркого труда.

День выдался на удивление солнечный, яркий. Горячий воздух уже с утра дрожит над цветущей рожью. В безоблачном голубом небе беспрерывно звучит серебристая трель жаворонка. Одна птица не успеет окончить, как следующая ее подхватывает.

Мы остановились у куста ивы, растущего у дороги. "Трава здесь сочная, густая, — сказала мать, — и есть где спрятаться от солнца. В тени куста отдыхай, а нет, так собирай ягоды".

Но я смотрю, запоминаю, как мать точит косу. Делает она это сноровисто, умело и даже ловко. Вот она широко и уверенно размахивается и коса врезается в густую траву с характерным жиканьем, срезает, подбирает ее в один валок. Пройдя покос, она возвращается, вытирает косу пучком травы, потом не торопясь вновь монташит. На лице у матери появились серебристые росинки пота. Я прошу: " Можно ли мне попробовать косить?". " Рано еще, — отвечает мать. – Накосишься!" Но я не отстаю, прошу настойчивее. На этот раз мать смотрит на меня както по-особому, на мою стриженую ножницами голову, на босые ноги, белые с двумя латками на коленях, штаны. И вдруг соглашается: " Попробуй! Только не спеши. Я с волнением принимаю из ее рук косу. Беру, как мне кажется, по всем правилам. Расставив пошире ноги, делаю первый взмах. Коса не слушается, пляшет, дрожит в моих руках. Оказывается, это сложная и трудная работа. У матери прокос чистый, полукруглый, а у меня ни то, ни сё. Пяткой косы я лишь сбиваю верхушки травы. Мать останавливает, спокойно поучает. Она становится у меня сзади, кладёт свои руки рядом с моими и мы делаем несколько взмахов вдвоем. "Вот видишь, — подбадривает мать и вселяет уверенность. – У тебя почти как у настоящего косца получается". Я слушаю, краснею, но рад, что прошел этот первый в своей жизни покос.

Мать отошла и села отдыхать под кустом, а я начал косить очередной покос. Чувствую, как ноют руки и ломит спина, но я не сдаюсь. Вот докошу покос – осталось немного – потом и отдохну. И только я взмахнул косой, как из-под неё взлетела серая птица. От неожиданности я выронил косу из рук. Мать быстро подошла ко мне. Оказывается, она всё время наблюдала за мной. На краю покоса в гнёздышке лежали яйца птицы. "Это гнездо перепела, — сказала мать. – В детстве мы часто находили их по лугам". Мать взяла косу и меня за руку. "Пойдем. Не будем мешать птице. Может даст Бог вернется она на своё гнездо".

Мы сидим в тени куста, отдыхаем. Видим, как птица с криком сделала несколько кругов над гнездом. И вот чудо! Она подлетела к гнезду и волоком потянула его. Мы молча, с восхищением наблюдаем за птицей. Не прошло и полчаса, как гнездо из прокошенного места перекочевало в некошеную густую траву. Мать с восторгом восклицает: " За свою жизнь такое чудо я вижу впервые". А потом глубоко вздохнув и как бы подытоживая всё ей пережитое, сказала: "Ради жизни детей чего только мать не сделает".

**Михаил ШЕВАНДО.**

# Выстаўка кветак

Напярэдадні Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь у раённым краязнаўчым музеі каторы год праводзіцца выстаўка жывых кветак. Прымаюць у ёй удзел многія нашы гараджане. Арганізоўваецца яна і сёлета. Выстаўляюцца пакаёвыя і садовыя экзатычныя кветкі.

Жадаючыя прыняць удзел у выстаўцы, якая будзе праходзіць з 1 па 5 ліпеня, могуць звяртацца ў раённы краязнаўчы музей.

**Ул. інф.**

ЛІРЫЧНАЕ І СМАЧНАЕ

# Хто ў доміку-ракавіне жыве?..

Ці звярталі вы ўвагу на тое, што ўздоўж дарог і чыгуначных насыпаў, у старых парках і садах, у поймах рэк і азёр, у зараслях крапівы і малінніках павольна і з нейкай асаблівай годнасцю цягнуць свае вапнавыя ракавіны вялікія малюскі. У маленстве – за вёсачкай Скалін Касцюковіцкага раёна, мы іх любілі збіраць, забаўляцца імі.

Гэтыя малюскі памерам з плод каштана, а зрэдку і па колеру падобныя на яго, яны паўзуць на адзінай сваёй назе і аглядваюць наваколле двума шарападобнымі вокамі на доўгіх вырастах, падобных на перыскопы падводнай лодкі. Пры нязначнай небяспецы вочы разам з "перыскопамі" раптоўна хаваюцца кудысьці пад ракавіну, а потым зноў павольна высоўваюцца.

На самой ракавіне яскрава бачны гадавыя і сезонныя кольцы. Па іх спецыялісты вызначаюць узрост вось гэтага знаёмага незнаёмца – вінаграднага смаўжа, які можа дасягаць узросту да чатырох-шасці гадоў.

Вінаградны смоўж не з'яўляецца карэнным жыхаром Беларусі. Трапіў ён да нас з краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы ў канцы XIX-пачатку XX стагоддзяў

Цікава, што прырода Беларусі, і ў прыватнасці, Магілёўшчыны, хаця і адрозніваецца ад клімату Францыі, Італіі і Іспаніі, — радзімы вінаграднага смаўжа, аказалася добрай другой радзімай гэтаму малюску. Рассяленне яго ішло ў асноўным за кошт завозу з-за мяжы ў старыя маёнткі заможных людзей, якія не хацелі адставаць ад еўрапейскай моды і ўсяляк насялялі свае паркі і сады прэстыжнымі жывёлінамі і раслінамі. Каштоўнасць такіх штучна створаных невялікіх мясцовых запаведнікаў велізарная. Мы атрымалі ў спадчыну рэдкіх прадстаўнікоў фаўны і флоры.

Аднак, калі на сваёй радзіме вінаградны смоўж выкарыстоўваецца ў асноўным у якасці далікатэснай ежы, то ў нас да нядаўняга часу ён выконваў практычна толькі дэкаратыўную ролю.

Ішоў час. Смоўж пачаў выпаўзаць за межы панскіх маёнткаў і паступова рассяліўся на навакольных калявадных мясцінах, аддаючы перавагу вільготным, багатым на раслиннасць угоддзям.

Вінаградны смоўж у асноўным паўзе па зямлі і толькі зрэдку забіраецца на ствалы невысокіх дрэў. У перыяд размнажэння ён выкопвае ямкі-гнёзды, куды і адкладвае 30-40 незвычайна белых, памерам з невялікую гарошыну яек. Хутка з іх вылупляюцца маленькія копіі дарослых смаўжоў, якія адразу ж выпаўзаюць з гнязда і пачынаюць самастойнае, поўнае небяспекі, жыццё. Вароны і сарокі, розныя наземныя драпежнікі не адмаўляюцца паласавацца замежным далікатэсам.

У засушлівы перыяд вінаградныя смаўжы зачыняюць уваход у свой домік-ракавіну тонкай плёнкай. У такім стане яны чакаюць часу, калі пойдзе дождж або апусціцца цёплы восеньскі туман. На зіму гэтая ахоўная плёнка становіцца больш трывалай. Смаўжы закопваюцца ў зямлю, хаваюцца пад ствалы паваленых дрэў або спяць у кучах лістоты і ламачча.

Мяняюцца часы. Цяпер, пачынаючы з мая, у лясах можна нярэдка сустрэць людзей з кошыкамі ў руках. Праўда, замест грыбоў яны збіраюць смаўжоў. Справа ў тым, што мяса гэтых малюскаў, а больш дакладна – іх адзіная нага і маленькая пячонка, з'яўляюцца далікатэсам і карыстаюцца вялізным попытам у гурманаў усяго свету. Асабліва ў краінах Еўропы – Францыі, Бельгіі, Галандыі, Люксембургу. Выявілася, што Беларусь мае дастаткова вялікія запасы гэтага прадукту, які да нядаўняга часу не выкарыстоўваўся, што прыцягнула ўвагу заходніх спажыўцоў.

Далейшы шлях такіх "трафеяў" складаны. У нас вы зможаце іх убачыць толькі ў асобных рэстаранах. Прыгатаваныя па спецыяльных рэцэптах, яны вельмі смачныя і карысныя. І ўсё ж асноўная частка смаўжоў адпраўляецца за мяжу, дзе яны здаўна з'яўляліся звычным і далікатэсным харчовым прадуктам.

**Канстанцін КАРНЯЛЮК, краязнавец. г. Віцебск.**

НА ПОЭТИЧЕСКОЙ ВОЛНЕ

# Случай на сенокосе

*Учил меня отец косу монташить,*
*Всё говорил: "Сыночек, не спеши.*
*Главней всего, что должен ты втемяшить*
*Так это "кукиш" ей не покажи".*
*Я отвечал с улыбкою: "О, папа,*
*Волнуешься ты зря, не подведу.*
*Сам знаешь, что сынок твой не растяпа,*
*Советы ловит прямо на ходу.*
*Стоял июнь. Я перешел в девятый.*
*Косил траву я на лугу с отцом.*
*Был стройный, худощавый и чубатый,*
*В родной деревне – первым молодцом!*
*И надо же было так вот случиться,*
*( С соседом наша полоса была),*
*А я с его дочкой поспел сдружиться,*
*И вот она сушить траву пришла.*
*Косу менташить не было причины,*
*Была как бритва, (раз хоть расхвали!)*
*Я взял косу, как все берут мужчины,*
*До этого всё ставил на землю.*
*Я по косе менташкой долго ляпал*
*И вот вдруг резко ляпать перестал.*
*Отец увидел: "Что, сын, сделал ляпу,*
*За что косе ты кукиш показал?".*
*Из пальца кровь, как ручеёк бежала,*
*А я сказал отцу: "Да ерунда"...*
*О, как хотел я, чтоб перевязала*
*Соседка Светка рану мне тогда.*

**Василий КОТИКОВ.**
**Пос. Тупичино.**

## НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# Каб не здарылася бяды

Што трэба зрабіць у гаспадарках, каб своечасова перапрацаваць зерне і захаваць яго без страт? З гэтым пытаннем наш карэспандэнт звярнулася да інспектараў раённай інспекцыі энерганагляду **Г. М. ГОМАНАВАЙ і В. С. ГОМАНАВА.**

**— Галіна Мікалаеўна, каб забяспечыць бесперабойную работу зернетакоў у час масавай уборкі ўраджаю трэба сёння паклапаціцца аб гэтым?**

– У першую чаргу назначыць адказных за тэхнічны стан і бяспечную эксплуатацыю электраабсталявання зернетакоў, сушыльных пунктаў, укамплектаваць штаты электратэхнічным персаналам. Той, хто будзе абслугоўваць электраабсталяванне на зернетаках і іншых аб'ектах, павінен прайсці праверку ведаў правіл тэхнікі эксплуатацыі і тэхнікі бяспекі.

**— Віктар Сямёнавіч, напэўна ж і агрэгаты трэба наладжваць ужо?**

— Вядома, абавязкова зараз правесці рамонт, прафілактычныя выпрабаванні ўсяго электраабсталявання гэтых аб'ектаў. Гэта значыць трэба ачысціць ад пылу, бруду, карозіі, пафарбаваць, зачысціць і падцягнуць кантакты фазных і зазямляючага праваду, правесці вымярэнне супраціўлення ізаляцыі праваду, кабелю, электраабсталявання, супраціўленне ланцуга фаза-нуль і інш. Не пашкодзіць праверыць надзейнасць злучэння нулявога праваду з карпусамі электраабсталявання шчыткоў, асвятляльнай арматуры, трубамі электраправодак і іншымі элементамі электраўстановак. Неабходна таксама укамплектаваць абаронным шклом і лямпамі адпаведнай магутнасці асвятляльнікі.

**— А калі ўсё гэта падрыхтавана, можна займацца перапрацоўкай зерня?**

— Займацца, вядома можна. Толькі ж можа здарыцца непрадбачаная сітуацыя.

З электрычнасцю працаваць – трэба ўлічыць усе дэталі, нават тыя, якія здаюцца дробязямі. Гэта абавязкова з усім абслугоўваючым персаналам правесці інструктаж аб правільным і хуткім вызваленні чалавека, які трапіў пад дзеянне электратока, а таксама аказанне пацярпеўшаму неабходнай дапамогі. А каб гэтага непрадбачанага не здарылася, варта на дзвярах размеркавальных уладкаванняў вывесіць папераджаючыя плакаты ў адпаведнасці з правіламі тэхнікі бяспекі, на ўсіх ключах, кнопках, рукаятках кіравання напісаць, ці аднавіць надпісы, якія ўказваюць для чаго яны прызначаны. Важна таксама ўкамплектаваць электраўстаноўкі зернетакоў і іншых аб'ектаў, звязаных з уборкай, перапрацоўкай і захаваннем зерня, абароннымі сродкамі, інструкцыямі па эксплуатацыі, тэхнікі бяспекі, запаснымі часткамі. Толькі захаваўшы ўсе гэтыя меры перасцярогі можна разлічваць на безаварыйную работу электраабсталявання на таках і зернесушыльных установках.

**-- Дзякуй за інтэрв'ю.**

**Гутарыла Наталля КАВАЛЁВА.**

# ПЕРАД НОВЫМ СЕЗОНАМ

Надыходзіць сезон актыўнага збору дароў прыроды: ягад, грыбоў, лекавых раслін. Жыхары вёсак і горада з кошыкамі і слоікамі накіроўваюцца ў лес за вітаміннай прадукцыяй і не толькі. Хочацца папярэдзіць усіх, каб не забывалі аб тым, што вялікая плошча лесу ў нашым раёне забруджана радыенуклідамі ў выніку аварыі на ЧАЭС. Трэба ведаць, што з лясных ягад больш за ўсіх радыёцэзій накопліваюць: буякі, журавіны, брусніцы, чарніцы. Некалькі менш накопліваюць радыёцэзій: суніцы, маліна, жавіна. Менш усяго забруджана рабіна і каліна. Нарыхтоўка дароў прыроды дапускаецца ў лясах са шчыльнасцю забруджвання глебы да 2 кюры на квадратны кіламетр. Іх абавязкова трэба правяраць на ўтрыманне радыенуклідаў.

У сувязі з тым, што на тэрыторыі Касцюковіцкага лясгаса ёсць лясніцтвы Савініцкае, Дзяражненскае, Панькаўскае, у якіх забаронены ці абмежаваны збор дароў лесу, насельніцтву раёна варта звяртаць увагу на ўстаноўленыя на дарогах папярэджваючыя знакі, якія інфармуюць наведвальнікаў аб радыяцыйнай абстаноўцы ў лесе. Будзьце ўважлівыя, старайцеся не наведваць лясныя ўгоддзі, дзе ўзровень радыяцыйнага забруджвання вельмі высокі.

**Леанід ІЛЬЯНКОЎ, інжынер-радыёлаг лясгаса.**

## НАВІНЫ КЛУБНАЙ РАБОТЫ

# СЁМУХА

У нашай бібліятэцы-клубе прайшло свята "Сёмуха". Глядзельная зала і сцэна былі ўпрыгожаны зялянінай і палявымі кветкамі. Гледачы ўбачылі забыты, але адноўлены культработнікамі з Журбіна, духаўскі абрад "Кумаванне". На сцэне Сёмік – Ігар Карытка прадае бярозавыя галінкі і венікі для лазні. Уваходзіць Сёмуха – Вера Піцянова. Яна расказвае пра пару, калі прыходзіць Духа і як яго святкуюць. Удзельнікі ансамбля "Старушкі-весялушкі" выканалі духаўскія песні. Затым на сцэне з'яўляюцца дзяўчаты з вянкамі на галовах, завіваюць бярозкі і водзяць карагоды. Пачынаецца абрад "Кумаванне".

Свята не абышлося і без Русалкі – Ані Антошкінай, якую прывёў Коля Піцяноў. Русалка загадвала загадкі і наладжвала гульні з моладдзю.

Свята закончылася канцэртам, які падрыхтавалі самадзейныя артысты Журбінскай бібліятэкі-клуба. У ім прагучалі прыпеўкі, жартоўныя, лірычныя песні, якія ўсхваляюць прыроду, наш край і добрых людзей. На такіх святах прысутныя ўспамінаюць мінулае родных мясцін і яднаюцца пакаленні.

Гледачы засталіся задаволеныя і дзякавалі ўсіх удзельнікаў за падараванае свята.

**Таццяна ЦІТОВА, жыхарка вёскі Журбін.**

# "Мая вёска – вёска родная"

Пад такой назвай арганізавалі і правялі конкурсную праграму ў Беладубраўскім сельскім Доме культуры. Незвычайнае атрымалася свята! Яго пачалі скамарохі жартаўлівай гутаркай паміж сабой. Аднак, іх размову, як здавалася бясконцую, спыніла вядучая Антаніна Цыганкова. Яна запрасіла на сцэну канкурсантаў: каманды дзяўчат з вуліц Лугавая і Садовая. Каму ж першаму пачаць свайго роду спаборніцтва? Гэта лёгка вырашылі два папяровыя галубы – чырвоны і блакітны, якіх пусцілі ў залу капітаны каманд Наталля Дамахіна і Алеся Савіцкая. І ўсе праблемы адразу вырашыліся. Голуб каманды Садовай даўжэй знаходзіўся ў палёце. Дзяўчаты з Садовай і пачалі першы конкурс — "Візітная картка". Што тут пачалося! Канкурсанткі паказалі сваю дасціпнасць, пачуццё гумару, характарызуючы вуліцу, і тых хто жыве на ёй.

А ўважлівае і строгае журы, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі раённага Цэнтра культуры: Людміла Гіркіна, Іна Нячаева і Ірына Лупанава, давалі ацэнку творчасці і красамоўству ўдзельніц.

Чарговы конкурс — "Прыгажосць сваімі рукамі" прымусіў пафантазіраваць яго ўдзельніц. Ім трэба было за кароткі час зрабіць падарункі трэцяга тысячагоддзя і скласці віншаванні. З заданнем дзяўчаты справіліся паспяхова. Ды і дуэль частушачніц вытрымалі цудоўна. Складаней было адказваць на пытанні па гісторыі сваёй вёскі.

Напэўна, самым удалым атрымаўся конкурс: "Мадэлі летняга сезону". Канкурсанткі выступалі ў ролі мадэльераў і манекеншчыц. Яны не проста дэманстравалі лёгкае адзенне, а ў касцюмах павінны былі прысутнічаць элементы, якія б сімвалізавалі назву каманды. Так, каманда "Садовая" падрыхтавала касцюмы "Садовінка", "Кухцік", "Дзелавой жанчыны", а "Лугавая" зрабіла касцюм "Рамонак", з водарасцяў, дэманстравалі касцюм для прагулкі, для адпачынку, купальны.

Захапіў прысутных і конкурс з гледачамі. Ім было прапанавана назваць песню, верш, у якіх ужываюцца словы з назвай адзення. Прычым пераможцам конкурсу павінен стаць не той, хто больш прапануе варыянтаў, а той, чый адказ будзе апошнім. Выйграла ў конкурсе гледачоў Яўгенія Савіцкая.

Паўзы паміж конкурсамі запаўнялі самадзейныя артысты Дома культуры. У іх выкананні гучалі не толькі задорныя частушкі, а і песні "Деревенька моя", "Белая Дуброва", "Мой муженек-работешенька" і іншыя.

Аб тым, што было весела, цікава на конкурсе, гаварыць і не трэба. Аб гэтым сказалі шчаслівыя ўсмешкі прысутных. Удвая шчаслівай была каманда-пераможца "Садовая". Удзельніцам конкурсу былі ўручаны падарункі.

**Людміла ЧУКІЛА, дырэктар Беладубраўскага сельскага Дома культуры.**

# Поздравляем!

*Горячо и сердечно поздравляем с юбилеем со дня рождения*

***ЖАБЫКО Зинаиду Дмитриевну***

*Любимая, хорошая, родная!*
*Тебя дороже в нашей жизни нет,*
*Ты лучшая на свете наша мама,*
*Тебе желаем мы прожить еще сто лет.*
*Здоровья крепкого, чтобы на всех хватило,*
*Как прежде, много ласки и тепла,*
*Чтоб только счастье в нашем доме было*
*И обходила стороной беда.*
*Не знай забот, живи счастливо,*
*Чтоб говорили вслед всегда:*
*"Как эта женщина красива!*
*Как бесконечно молода!"*

***Дочь, сын, зять, невестка и внуки.***

X X X

*Горячо и сердечно поздравляем с 45-летием со дня рождения дорогого мужа, отца, дедушку*

***КУЦАЕВА Владимира Анатольевича***

*Здоровья крепкого на годы*
*И много радостных минут,*
*А мимолетные невзгоды*
*Пусть, словно тучи, уплывут.*
*Семейной дружбы и согласья,*
*Успехов в жизни и труде,*
*А главное – большого счастья*
*Желаем от души тебе.*
*Желаем жизнь прожить красиво,*
*Чтоб было всё в ней сердцу мило,*
*Чтоб было радости сполна,*
*От счастья – кругом голова,*
*Ну и желаем, как всегда,*
*Любви, здоровья и добра.*

***Жена, дочь, сын, невестка и внук Ильюша.***



***Хатняя жыўнасць.***
***Фотаэцюд Дзмітрыя ПЯЧКОЎСКАГА.***

## ПАСЛЯ ВЫПУСКНОГА БАЛЮ

# ШКОЛЬНЫЯ ГАДЫ НЕ ЗАБУДУЦЦА

*Празвінеў апошні школьны званок для нашага 11 "А" класа. Засталіся ззаду выпускныя экзамены. У гэтыя апошнія школьныя дні мы імкнуліся вывучыць, здаецца ўсё, што не змаглі зрабіць на працягу ўсіх гадоў вучобы.*

*І вось пройдзены апошні этап у нашым школьным жыцці. Мы трымаем у руках атэстаты сталасці. Перад намі – шырокі шлях у самастойнае жыццё. І кожнаму з нас ісці сваёй дарогай. Але я перакананы, што сваіх настаўнікаў, якія паказалі нам гэту дарогу, мы ніколі не забудзем. У апошнія хвіліны развітання хацелася б не толькі сказаць вялікі дзякуй ім за цярпенне, за дабрыню, за веды, якія яны нам далі. Хацелася б папрасіць прабачэння ў іх за тыя хвіліны, калі мы былі непаслухмянымі, няўдзячнымі. Колькі, як кажуць, крыві папсавалі мы ім сваімі паводзінамі. Сыпалася на падлогу бітае шкло з вакна ў нашым класе, а мы, хлопцы, не спяшаліся прызнацца ў тым, што зрабілі такую шкоду. Нам было сорамна глядзець у вочы нашай Наталлі Рыгораўне – класнаму кіраўніку. А яна адразу здагадалася, хто зрабіў гэта, ледзь толькі акінула позіркам клас.*

*А колькі было яшчэ такіх непрыемных хвілін, калі хацелася ад сораму праваліцца скрозь зямлю. Але ўсё ж добрага было значна больш у нашым школьным жыцці. І мы з прыемнасцю будзем успамінаць аб гэтым.*

***Дзяніс ПАРХОМЕНКА, былы вучань 11 "А" класа СШ № 3.***

## СПОРТ

# СПАБОРНІЦТВЫ

Нядаўна ў Касцюковічах ішлі занальныя спаборніцтвы па футболу сярод аддзелаў РАУС і пажарна-аварыйна-выратавальных часцей. У спаборніцтвах удзельнічалі каманды з Клімавіч, Крычава, Краснаполля, Хоцімска, Чэрыкава і Касцюковіч. Ва ўпартай барацьбе перамогу атрымалі гаспадары футбольнага поля – пажарна-аварыйная часць г. Касцюковічы. Лепшымі ігракамі ў камандзе былі Уладзімір Калеснікаў, Аляксандр Архіпаў, Віктар Малашанка, Уладзімір Габрусеў.

Каманда-пераможца прыме ўдзел у абласных спаборніцтвах, якія будуць праходзіць у Магілёве 28 і 29 чэрвеня.

**Ул. інф.**



В связи с прекращением предпринимательской деятельности предпринимателем **КОЖИНОЙ Сании Умяровны** претензии кредиторов принимаются на протяжении двух месяцев.

**Калектыў рознічнага гандлёвага прадпрыемства "Каапунівермаг" выказвае глыбокае спачуванне загадчыцы магазіна № 38 ст. Камунары КАРПАЧОВАЙ Людміле Уладзіміраўне з выпадку смерці БАЦЬКІ.**

**Сем'і Прохаравых, Паршыкавых выказваюць глыбокае спачуванне ГІРКІНЫМ Аляксандру Пятровічу, Надзеі Міхайлаўне і Наташы ў сувязі з напаткаўшым іх горам – смерцю МАЦІ, СВЕКРЫВІ, БАБУЛІ.**


**Галоўны рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ**

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43. Індэкс газеты 64045

ТЭЛЕФОНЫ: галоўны рэдактар – 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар – 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі – 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя –2-23-55.

Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.

**Газета выходзіць у сераду і суботу.**

Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш
Тыраж 1666 экземпляраў
Друк афсетны
Падпісана ў друк 27. 06. 2000 г. 18.00
Заказ № 49

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.**

**Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.**

**Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.**